# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 11 (1046) ГОД XXI 14 САКАВІКА 1976 г. ЦАНА 60 гр.


* ✻ *

*Бор,*
*як роздум,*
*глыбокі,*
*неруш пальцамі не прадзерці.*
*Мы ўцякаем сюды ад спёкі —*
*мы ўцякаем сюды ад смерці.*
*Працягнуўшы ў свае іголкі*
*ніткі яркіх праменняў,*
*сосны*

*ўзор вышываюць дзівосны...*
*У траве іржавеюць асколкі*
*ад снарадаў і мін, якія*
*тут упалі ў гады цяжкія...*

*Пахне каскаю,*
*пахне краскаю*
*з адмысловай мядовай назваю,*
*пахне цёмнай таемнай казкаю,*
*што спрадвеку гушчар*
*расказвае...*
*Дрогкім шумам, што ўторыць*
*думам,*
*то з лагоднай, то з лёгкім сумам,*
*ты ўспаміны аб будучым*
*будзіш,*
*лес мой — дом мой!..*
*Ты быў. Ты будзеш.*

**Пятрусь Макаль**



## Пуцяводныя думкі

Вывучэнне — гэта вока розуму.
*Хосе Марці*

Трэба многа вучыцца, каб разумець, што ведаем мала.
*М. Мантэнь*

Лепш вывучыць лішняе, чым нічога не вывучыць.
*Сенека*

Веды — зброя, а не цэль.
*Л. Талстой*

Трэба імкнуцца да ведаў не дзеля спрэчак, не для пагарды другіх, не дзеля выгады, славы, улады ці іншых нізкіх мэтаў, а дзеля таго, каб быць карысным у жыцці.
*Ф. Бэкон*



*На сустрэчы у I сакратара ВК ПАРП.* *Фота Я. Цялушэцкага.*

## У I-га САКРАТАРА ВК ПАРП

**26 лютага г.г. у 20-ую гадавіну стварэння Беларускага грамадска-культурнага таварыства Уладзіслаў Юшкевіч, I сакратар Ваяводскага камітэта Польскай аб'яднанай рабочай партыі ў Беластоку, у прысутнасці сакратара ВК ПАРП Галіны Пятроўскай-Ольчак і загадчыка Адміністрацыйным аддзелам ВК ПАРП Здзіслава Рыбіцкага прыняў кіраўніцтва БГКТ і „Нівы": старшыню ГП БГКТ Мікалая Самоціка, сакратара ГП БГКТ Янку Зенюка, сакратара ПОП ПАРП пры ГП БГКТ Кастуся Хлябіча і галоўнага рэдактара „Нівы" Георгія Валкавыцкага.**

**На сустрэчы была абмеркавана дзейнасць БГКТ і „Нівы" за мінулыя 20 год і бягучая. I сакратар ВК ПАРП высока ацаніў працу БГКТ і нашай рэдакцыі, падкрэсліваючы важную ролю, якую выконваем у асяроддзі, пажадаў узбагачэння дасягнутых вынікаў на карысць супольнай справы і з сардэчнай увагай і глыбокім разуменнем аднёсся да нашых патрэб.**

**Сяброўская атмасфера, якая панавала на сустрэчы, пакінула вялікае ўражанне на нашых прадстаўніках.** **(гв)**

## ЧЫМ ЗАЙМАЛІСЯ НАШЫ ПАСЛЫ

Дзейнасць Сейма шостай кадэнцыі закончылася, як вядома, у лютым гэтага года прыняццем вельмі важных паправак да нашай Канстытуцыі з 1952 года. У сакавіку адбудуцца чарговыя выбары ў Сейм.

— Чым жа займаліся паслы, якія прадстаўлялі нашу Беласточчыну ў Сейме?

Сакратар ваяводскага пасольскага згуртавання, пасол Крыстына Маршалак-Млынчык кажа, што лягчэй бы сказаць было, чым яны н е  з а й м а л і с я.

З дакументаў вынікае, што паслы ад Беласточчыны сістэматычна сустракаліся ў Беластоку, каб абмеркаваць самыя важныя для ваяводства праблемы. Адбыліся 23 нарады з удзелам паслоў і кіруючага грамадска-гаспадарчага актыву ваяводства. Між іншым, супольна разглядалі:

— ажыццяўленне сеймавай пастановы аб упарадкаванні ўласнасці на зямлю, аб камасацыі і абмене зямельных угоддзяў;

— развіццё жывёлагадоўлі і прадукцыю корму;

— дзейнасць рамеснікаў і дробнай прыватнай прамысловасці ў галіне лепшага забеспячэння насельніцтва атракцыйнымі таварамі;

— развіццё індывідуальнага жыллёвага будаўніцтва ў гарадах і вёсках;

— забеспячэнне вадой гарадскіх і вясковых жыхароў;

— паляпшэнне сацыяльных умоў працы на фабрыках і прадпрыемствах;

— ахова здароўя насельніцтва;

— развіццё турызму і спорту.

Дзякуючы падтрымцы з боку нашых паслоў Беласточчына атрымае яшчэ адно прадпрыемства для перапрацоўкі фруктаў і агародніны. Паслы дапамаглі „прапхнуць" у план на гэты год пабудову аўтабазы для гарадской камунікацыі ў Беластоку.

Дваццаць раз выступалі нашы паслы з канкрэтнымі прапановамі і патрабаваннямі ў адрас цэнтральных улад. У чатырох выпадках было гэта салідарнае калектыўнае выступленне цэлага ваяводскага пасольскага згуртавання. Былі гэта праблемы асноўнай важнасці для Беласточчыны.

Паслы, аднак, не цураліся дробных спраў, з якімі звярталіся да іх звычайныя людзі, выбаршчыкі. Адна толькі Крыстына Маршалак-Млынчык на працягу сваёй апошняй кадэнцыі прыняла і афарміла звыш 270 скаргаў. Іншыя паслы таксама не хаваліся ад сваіх выбаршчыкаў.

— А як нашы паслы адзначылі сваю прысутнасць у дзейнасці Сейма?

— Яны працавалі ў 19-ці сеймавых камісіях, дзе амаль без перапынку рыхтуецца ўсё тое, што пасля разглядае Сейм, што паказвае тэлебачанне, аб чым пішуць газеты. Чатыром паслам даверany абавязкі намеснікаў старшынь сеймавых камісій, 13 паслоў ад Беласточчыны прымалі ўдзел у пленарнай дыскусіі ў час абмяркоўкі ў Сейме розных важных пастаноў. З сеймавай трыбуны выступалі Анна Келч, Уладзіслаў Задыковіч, Ян Война, Казімір Галіцкі і іншыя.

Сярод гэтых „іншых", пра якіх гаворыць К. Маршалак-Млынчык, шмат раз знаходзілася яна сама.

Апошні раз бачылі мы яе за сеймавай трыбунай у час спрэчак над праўкамі да Канстытуцыі.

З усяго гэтага відаць, што паслы ад Беласточчыны поўнасцю апраўдалі наш давер і добра прадстаўлялі нашы супольныя справы на форуме найвышэйшай улады ў сацыялістычнай Польшчы.

**Віктар Рудчык**

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „Ніве"

**Людзі з песенных загонаў ● Пракладзена толькі адна баразна ● Вінцук Склубоўскі ● Берагі грымячай ракі ● Мой ліцэй, мой клас ● Лясная быль ● Пяцёра з Дашоў ● У полі за Васільковам ● Весткі з Тыневіч Малых, Сакоў, Белкаў, Дубяжына, Гарадка, Бельска, Гайнаўкі, Бранска ● Калі сняцца падушкі ● Песня „W Chicago szalał gang".**

## VIII З'ЕЗД БГКТ

**БАНК ДУМАК**

## АРГАНІЗАЦЫЙНАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ

Праведзены ў 1975 годзе трэці этап рэформы дзяржаўнай адміністрацыі паставіў праблему пошукаў новых форм арганізацыйнай структуры таварыства. Дагэтуляшняя структура была такая: галоўнае праўленне, аддзелы (дзейнічалі на тэрыторыі паветаў) і гурткі. У актуальнай структуры, якую трэба бачыць у падрыхтоўцы з'езду, выпадае звяно сярэдняе — аддзелы, паколькі выпалі паветы, спрашчваецца яна — галоўнае праўленне і гурткі.

Гэтыя змены не толькі арганізацыйнага характару, яны маюць рашаючы ўплыў на сутнасць справы, патрабуюць прыняцця новых формаў працы і змены функцый. Цяпер гурток стаў адзіным і асноўным звяном, які ажыццяўляе праграму на сваёй тэрыторыі, які рашае ўсе справы, што выступаюць у дзейнасці таварыства.

У даны момант нам неабходна акрэсліць падставовыя формы працы ГП БГКТ з актывам гурткоў, сувязь з гэтым актывам і спосаб перадачы праграм і ўказанняў і атрымлівання інфармацый аб іх рэалізацыі. Недахоп калектываў, якімі былі аддзелы, каардынуючыя дзейнасць гурткоў дзякуючы згуртаванаму актыву, патрабуе ў даны момант дакладнай звіданцыі гэтага актыву ў ГП і сістэматычнай працы з імі. Неабходна апрацаваць праграму навучання асобных груп актыву, прымаючы пад увагу яго спецыялізацыю, як, напрыклад, арганізатараў

(Працяг на стар. 4)

**КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З БЕЛАРУСІ**

# Дэлегат XXV з'езду КПСС



*Станіслаў Наумік сярод сваіх выхаванцаў.*

Хадзіць бы Станіславу наступнай восенню ў школу, але не да вучобы, не да кніг было ў той страшны час. Вайна...

Толькі ў 1944 годзе, пасля вызвалення тэрыторыі Беларусі ад нямецка-фашысцкай акупацыі, запаліліся для Станіслава школьныя агні. А ў 1953 ён прыйшоў на Валкавыскі ліцейна-механічны завод, маючы няпоўную сярэднюю адукацыю. Сёння за плячыма Станіслава Науміка — дзесяць класаў агульнаадукацыйнай школы і трохгадовая школа майстроў. Гэту адукацыю ён атрымаў без адрыву ад вытворчасці.

Станіслаў Наумік многа чытае. У яго кватэры на паліцах вялікая колькасць кніг. Сярод іх салідныя тамы Бібліятэкі сусветнай літаратуры. Асабліва Станіслаў захапляецца паэзіяй. Па выхадных днях ён з сям'ёю робіць прагулкі за горад: зімой ходзіць на лыжах, у летнюю пару яго маняць азёры і рэкі, дзе ён праводзіць актыўны адпачынак на лоне прыроды.

Станіслаў Наумік сістэматычна працуе над павышэннем сваіх прафесіянальна-тэхнічных ведаў. За гады працы накапіў велізарны практычны навык. Раней Станіслаў працаваў механікам вытворчага корпуса. Цяпер узначальвае брыгаду слёсараў-рамонтнікаў. З душой адносіцца да справы і да людзей. З'яўляючыся настаўнікам, Станіслаў за гады пяцігодкі навучыў сваёй прафесіі дваццаць маладых рабочых. У мінулым годзе Наумік удзельнічаў у працы рэспубліканскага злёту настаўнікаў. Брыгада Станіслава Науміка — гэта дружны працоўны калектыў, кожны член брыгады любіць сваю прафесію і захапляецца ёю. У брыгадзе шмат зроблена, каб аблегчыць сваю працу. Амаль кожны член брыгады з'яўляецца рацыяналізатарам. Вось некаторыя з іх. На стругальным станку ўстаноўлена прыспасабленне, дзякуючы якому механізаваны працэс шліфоўкі, бронзавыя ўтулкі замянілі сплавам з цынка, алюмінію і медзі, унядрылі закалку дэталяў токамі высокай частаты. Дзевятую пяцігодку яго брыгада выканала за чатыры з паловай гады. Ёй прызналі званне брыгады камуністычнай працы.

Завод ужо шмат гадоў з'яўляецца шэфам сярэдняй школы горада. Для старшакласнікаў гэтай школы арганізавана вытворчае навучанне па прафесіях токараў, слёсараў... Пасля заканчэння школы многія з іх прыходзяць на завод ужо падрыхтаванымі да працоўнай дзейнасці. У гэтай высакароднай працы з моладдзю вялікая частка намаганняў і настаўніка Станіслава Науміка, які імкнецца яшчэ больш развіць у моладзі замілаванне да выбранай прафесіі, дапамагчы кожнаму з іх праявіць сябе на рабоце.

За актыўны ўдзел у грамадскім жыцці калектыву, за працавітасць і ўважлівыя адносіны да людзей Станіслава Науміка шмат разоў выбіралі ў склад партыйнага бюро цэха і другі раз выбралі членам бюро раённага камітэта партыі. Ён таксама ўзнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.

Станіславу Навуміку камуністы аказалі высокі давер, выбраўшы яго дэлегатам XXV з'езду Камуністычнай партыі Савецкага Саюза.

**Аляксандр Кійранен**

# ШТО НОВАГА?

## У КІТАІ

З другой палавіны студзеня ў Кітаі ўзмацнілася кампанія нападак на праціўнікаў „культурнай рэвалюцыі".

Спасылаючыся на ўказанне Мао Цзэ-дуна: „Класавая барацьба — рашаючае звяно, а астатняе — дэталі", органы пекінскай прапаганды выступілі з рэзкай крытыкай тых кітайскіх дзеячоў, якія, па мааісцкай тэрміналогіі, з'яўляюцца „капітулянтамі", „рэвізіяністамі, надзеленымі ўладай". У друку гаворыцца аб няспыннай барацьбе „дзвюх ліній", а цяпер і „двух класаў". Атакам падвяргаюцца рэабілітаваныя ў апошні час на сваіх пасадах прадстаўнікі партыйных і дзяржаўных кадраў, якія падвяргаліся рэпрэсіям у ходзе „культурнай рэвалюцыі".

Абвастрэнне барацьбы адбылося ў важны момант унутрыпалітычнага жыцця Кітая, калі са смерцю Чжоу Энь-лая, а да яго Кан Шэна і Дун Бі-у вакантнымі апынуліся тры месцы ў саставе пастаяннага камітэта палітбюро ЦК КПК і дзяржаўныя пасады, якія займалі гэтыя дзеячы.

Мэта цяперашняга выступлення „левых", а больш дакладна экстрэмістаў, — выкарыстоўваючы Мао Цзэ-дуна, умацаваць уласны ўплыў у дзяржаўным партыйным апараце. Гэта робіцца ва ўмовах, калі ўсё больш выяўляецца фізічная слабасць Мао.

Пытанне аб замяшчэнні вакантных пасад у вышэйшым эшалоне кітайскага кіраўніцтва непасрэдна звязана з пытаннем аб тым, хто можа стаць пераемнікам Мао. Групоўка „левых" змагла ў выніку „культурнай рэвалюцыі" падпарадкаваць сабе прапагандысцкі апарат, заняць уплывовыя пазіцыі ў цэнтральным партыйным апараце.

У той жа час становіцца вядомым усё больш фактаў, якія сведчаць аб тым, што сярод кіруючых кадраў атрымліваюць шырокае распаўсюджанне настроі ў карысць рэалістычнай унутранай і знешняй палітыкі, канкрэтнага вырашэння неадкладных праблем развіцця краіны, закранаючых інтарэсы кітайскага народа. Гэтыя тэндэнцыі звязваюць з пазіцыяй так званай „памяркоўнай", або „прагматычнай" лініі. атоесамляючы яе з прадстаўнікамі адміністрацыйнага і ваеннага апарату. Вядома таксама, што ў радзе правінцый Кітая мелі месца адкрытыя выражэнні незадаволенасці насельніцтва сваім цяперашнім цяжкім становішчам.

Да гэтага часу Мао Цзэ-дун сістэматычна аказваў падтрымку „левым", захоўваючы ў той жа час магчымасць манеўра і выступаючы як свайго роду „арбітр", што стаіць над групоўкамі.

Трэба адзначыць, што ход падзей прывёў да з'яўлення ў Кітаі слою партыйных і дзяржаўных кіраўнікоў, якія яшчэ не скампраметавалі сябе выступленнямі супраць „левых" і праяўляюць лаяльнасць да Мао Цзэ-дуна, але ў той жа час па сваёй палітычнай біяграфіі прадстаўляюць тую ж катэгорыю кадравых работнікаў старэйшага і сярэдняга пакаленняў, што і „памяркоўныя". Прадстаўніком гэтай праслойкі ў саставе палітбюро ЦК КПК называюць, напрыклад, Хуа Го-фэна, які, як піша заходні друк, стаў кампраміснай фігурай на пасадзе выконваючага абавязкі прэм'ера дзяржсавета.

Унытрыпалітычная барацьба ў Кітаі прыняла настолькі востры характар, што „Жэньмінь жыбао", „Гуанмін жыбао" і „Хунцы", якія знаходзяцца ў руках „левакоў", пішуць аб ёй дзень пры дні.

Мааісты ў якасці асновы згуртавання кітайскага кіраўніцтва, ахопленага міжусобнай барацьбой, па-ранейшаму спрабуюць выкарыстаць махровы антысаветызм, шукаюць падтрымку ў самых рэакцыйных імперыялістычных колаў.

**А. Пятроў**

**НА СТАРОНКАХ БЕЛАРУСКАЙ САВЕЦКАЙ ЭНЦЫКЛАПЕДЫІ**

# МІНУЛАЕ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ Ў БелСЭ

Яно адлюстравана ў артыкулах і ілюстрацыях, якія непасрэдна прысвечаны мясцовасцям, гістарычным фактам і людзям Беласточчыны (напр. „Беласток", „Падляшша", „Драгічынская бітва", „Івановіч Грынь" і інш.) або прадстаўляюць гістарычныя падзеі ў больш шырокім плане, але яны таксама датычаць Беласточчыны (напр. „Бужане", „Дрыгавічы", „Чорная Русь", „Вялікае княства Літоўскае" і г.д.).

Наш агляд БелСЭ пачнем ад матэрыялаў аб каменным веку і свідэрскай культуры („Свідэрская культура", т. IX, с. 441-2), якая была пашырана ў X-VII тысячагоддзях да нашай эры ў Польшчы (Мазовія) і на Беларусі (Панямонне, Заходняе Палессе), значыць, ахоплівала таксама тадышнюю Беласточчыну. Яна належала паляўнічым плямёнам, што жылі ў прыледавіковай вобласці. Людзі карысталіся прыладамі працы з крамнёвых пласцін, палявалі з лука і прыручылі сабаку. Ужо склаўся рода-пляменны лад, паўстаў матрыярхат з кіруючай роляй жанчыны ў гаспадарцы і грамадскім жыцці. З артыкула „Шарападобных амфар культура" (т. XI, с. 295) даведваемся, што гэта была „культура неалітычных плямён, якія ў 3-м тысячагоддзі да нашай эры насялялі тэрыторыю Еўропы ад Эльбы да Дняпра і ад Балтыйскага мора да Чэхаславакіі і Румыніі. Насельніцтва жыло ў паселішчах у паўзямлянках і наземных жытлах слупавой канструкцыі, выраблялa шарападобныя і пласкадонныя амфары, гаршкі, кубкі, міскі, шліхтаваныя крамнёвыя сякеры, касцяныя вырабы, бурштынавыя ўпрыгожанні (...), займалася жывёлагадоўляй і паляваннем". Падобна шэраг матэрыялаў адносіцца пасрэдна да Беласточчыны ў артыкулах „Бронзавы век" (т. II, с. 402-3), „Жалезны век" (т. IV, с. 402-3) і інш.

Аб усходнеславянскіх плямёнах, што насялялі паўднёвую Беласточчыну, можам меркаваць з артыкула „Бужане" (т. II, с. 455), у якім гаворыцца, што гэта было „старажытнае ўсходнеславянскае племя (магчыма, саюз плямёнаў), якое ў 6-9 ст. жыло ў басейне Заходняга Буга. Археалагічнымі раскопкамі высветлена, што бужане з глыбокай старажытнасці жылі асела, займаліся земляробствам, жывёлагадоўляй, бортніцтвам, рамёствамі" і далей: „у 10 ст. увайшлі ў склад Кіеўскай Русі. З 12 ст. жыхароў зямель Пабужжа называлі па галоўных гарадах княстваў (драгічынцы, берасцейцы і інш.). З 13 ст. пашыраецца новая назва гэтых зямель — Падляшша, а з 1569 г. — Падляссе". З карты ў артыкуле „Дрыгавічы" (т. IV, с. 292), — што ўсходнюю Беласточчыну засялялі дрыгавічы, з карты ў артыкуле „Крывічы" (т. VI, с. 132) —

(Працяг на стар. 5)

*Do*

*Zespołu Redakcyjnego*

*„Niwy"*

*Białystok*

*Z okazji XX-lecia „Niwy" przesyłam Zespołowi Redakcyjnemu — w imieniu Zarządu RSW „Prasa-Książka-Ruch" i własnym — serdeczne gratulacje i życzenia.*

*Od 20 lat „Niwa" jest pismem zaangażowanym w sprawy rozwoju społeczno-kulturalnego ludności białoruskiej w Polsce. Jako inicjator wielu pożytecznych działań i akcji społecznych zdobyło pismo uznanie, zaufanie i szacunek swoich czytelników.*

*Gratulując Wam dotychczasowych osiągnięć, życzę Zespołowi Redakcyjnemu zadowolenia w pracy i pomyślności w życiu osobistym.*

*Stanisław Mojkowski*
*Prezes Robotniczej Spółdzielni Wydawniczej „Prasa-Książka-Ruch"*

*Tow.*

*Jerzy Wołkowycki*

*Redaktor Naczelny*

*Tygodnika „Niwa"*

*w Białymstoku*

*Szanowny Towarzyszu Redaktorze,*

*Z okazji Jubileuszu XX-lecia działalności Waszego pisma przesyłamy Wam i całemu zespołowi redakcyjnemu serdeczne pozdrowienia i najlepsze życzenia.*

*Towarzystwo Przyjaźni Polsko-Radzieckiej wysoko ceni Waszą działalność na niwie popularyzacji osiągnięć Kraju Rad i współpracy polsko-radzieckiej.*

*Jesteśmy przeświadczeni, że tak jak dotychczas możemy liczyć na waszą pomoc w realizacji programu wojewódzkiej Organizacji Towarzystwa Przyjaźni Polsko-Radzieckiej.*

*Życzymy Wam, Szanowni i Drodzy Towarzysze, dalszych sukcesów w pracy zawodowej i szczęścia w życiu osobistym.*

*Za Prezydium*
*Jan Socha*
*Przewodniczący ZW TPPR.*

# ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 12.III** — 7.30 Koncert. 8.20 Spektakl. 14.00 Film fab. 17.00 Koncert. 17.55 Spektakl. 19.30 Koncert.

**Sobota 13.III** — 12.00 Hokej CSKA—Chimik. 14.45 Koncert. 17.00 Nie do wiary. 18.00 Film. 19.30 Koncert. 20.25 Gimnastyka. Mistrz. ZSRR. Kobiety.

**Niedziela 14.III** — 9.00 Film fab. 10.05 Koncert. 12.50 Film fab. 15.00 Panorama międzynar. 15.30 Filmy anim. 16.15 Święto sportowe dla uczczenia XXV Zjazdu KPZR. 18.00 Klub film. 20.30 Sport. Pływanie. ZSRR—NRD.

# КІНО

**Białowieża** Zaproszenie — szwajc. 16—17. Flip i Flap w legii cudzodziemskiej — RFN 18—19. Rozmowa — USA. 20—21.

**Czeremcha** 5 łatwych utworów — USA. 16—17. Niezwykłe przygody Włochów w Rosji — radz. 20—21.

**Czyże** Zielona ściana — per. Aresztuję cię przyjacielu — USA 17—21.

**Dubicze Cerkiewne** Przygody Hucka Finna — radz. Godzina za godziną — pol. 17—21.

**Gródek** Blokada I i II s. radz. 20—21.

**Kleszczele** Wycieczka w nieznane — pol. 16—17. Drogi do ojczyzny — pol. 18—19. Przeznaczenie ma imię Kamila — czes. 20—21.

**Michałowo** Najemnik — ang. 16—17. Babie lato — buł. 18—19. Wspomnienie generała — radz. 20—21.

**Milejczyce** Marysia i krasnoludki — pol. 16—18. Legenda o Pauli — NRD 17—21.

**Narew** Polska gola! — pol. Żołnierski trud — pol. 17—21.

**Narewka** Pepino podbija Amerykę — wł. Kobieta z lancetem — radz. 17—21.

**Nurzec** Dzieci Don Kichota — radz. 16—17. Żeglarz znad Dunaju — węg. 18—19. Niezwykłe przygody Włochów w Rosji — radz. 20—21.

**Orla** Orzeł i reszka — pol. Adaś i Ola — czes. 17—21.

**Rajsk** Gorący śnieg — radz. Tylko wtedy gdy się śmieję — ang. 17—21.

**Suchowola** Kalendarz Warszawski — pol. Pojedynek na szosie — USA 17—21.

B.Z.Graf. Zam. 655 F-2




Тры гады таму назад на забаве ў нашай вёсцы пазнаёмілася я з хлопцам. Спадабаўся ён мне і я яму таксама. Ад тае пары пачалі мы сябраваць, а потым пакахалі адзін другога. І ўсё было б у парадку, але Янка мусіў ісці ў войска. Рассталіся мы, і Янка прасіў, каб я была яму вернай, каб чакала, пакуль вернецца. І я яму абяцала, бо мы мелі пажаніцца. Было вельмі сумна, але прыехаў у нашу вёску хлопец з Гайнаўкі, які мной зацікавіўся, а потым наведваў мяне. Янку я нічога аб гэтым не казала. Але мінула два гады, і мой каханы вярнуўся з войска. Прыйшоў да мяне і ўбачыў гэтага хлопца. Пачалася сварка. Янка ўдарыў мяне па твары. Потым абодва хлопцы выйшлі з хаты. Бачыла, як біліся на панадворку. Не паказаўся больш ні адзін, ні другі. А калі аднойчы ўбачыла я Янку, ён нават не глянуў на мяне, быццам не пазнаўшы. Хлопец з Гайнаўкі больш у нашай вёсцы не паказаўся. Парай, што мне рабіць, каб ізноў вярнуць Янку, каб усё было, як раней. Я яго надалей вельмі кахаю.

Малгося

З гэтага, што пішаш, відаць, што між табой і хлопцам з Гайнаўкі кахання не было. І ты павінна пры першай магчымасці сказаць аб гэтым Янку. Скажы, што апрача сяброўства нічога больш між вамі не было. Прасі прабачэння, ты ж вінавата. А калі пачуцці Янкі асталіся нязменнымі, напэўна ўсё наладзіцца. Каханне многаму прабачыць.

**„Сэрцайка“**




У здаровым целе і дух здаровы

### ЯКІ СОН ЗДАРОВЫ?

Нішто так не рэгенеруе сіл, як моцны, здаровы сон. Ведае аб гэтым большасць жыхароў нашай планеты. Ёсць яшчэ, аднак, частка людзей, якія сну выразна недаацэньваюць, і многія справы (патрэбныя і непатрэбныя) робяць коштам гэтых неабходных гадзін адпачынку.

У народзе існуе погляд, што сон перад поўначчу — найбольш здаровы. Цяжка абгрунтаваць навукова, што гэткі сон мае асаблівае значэнне для здароўя. Ёсць жа шмат людзей, у якіх дасканалае самапачуццё, а засынаюць яны, як правіла, пасля поўначы.

Няпраўда, што хто хоча выспацца і быць здаровым, павінен засынаць найпазней а 23.00. Галоўнае — гэта выканаць запатрабаванне арганізма на 8-гадзінны сон у суткі. Хто раней пачынае працаваць, а трэба ж яму гэту норму сну выканаць, павінен легчы раней спаць, прынамсі на пару гадзін перад поўначчу, аднак зусім гэта не абазначае, што гэтыя дзве гадзіны з'яўляюцца больш каштоўнымі, чым наступныя.

У сувязі з гэтым узнікае пытанне: ці можна без шкоды для арганізма перастáвіць рытм сну? Калі гэта адбываецца рэгулярна (напрыклад, праца на дзве розныя змены ў двух чарговых тыднях), то арганізм пераносіць гэтыя пераскокі без ніякага расстройства. Сон і бодрстваванне залежыць, як і іншыя функцыі арганізма — тэмпература, біццё сэрца, ціск крыві, траўленне — ад „унутранага гадзінніка“, заведзенага на 24-гадзінны рытм. Калі, такім чынам, арганізм прывыкне да таго, што праз нейкі акрэслены час у ім наступае рэгулярнае перасоўванне, то пераняссе гэта без пратэстаў. Запратэстуе толькі тады, калі будзе прымушаны да нічым неабгрунтаванага хаосу.

Ці аб людзях, якія ў сувязі з сваёй працай вымушаны спаць удзень, а не ўначы, можна сказаць, што іх сон менш каштоўны?

У прынцыпе — не, аднак, пры той умове, што агульная колькасць іх сну будзе дастатковай і што сон будзе адбывацца без знешніх памех, у цішыні, без яскравага святла. На жаль, найцяжэй выканаць гэтую другую ўмову. Як паказваюць даследаванні, жанчыны, працуючыя на трэцяй змене, ходзяць на рабоце, як правіла, невыспаўшыся. Недахоп сну выклікаюць, зразумела, і многія іншыя фактары: узрост, агульны стан здароўя, колькасць дзяцей, сям'я і г.д.

**Эскулап**

## ВЕР-НЕ ВЕР

Прысніліся мне два хлопцы, адзін з іх хацеў мяне забіць кінжалам. А вось як было гэта ў сне.

Мне быццам бацька сказаў, каб я ішла на пашу за каровамі, але я хацела паехаць фурай. Ужо я мела ад'язджаць, але прыйшлі да мяне дзве сяброўкі, якія хацелі, каб я пайшла з імі, бо мяне чакае на дарозе мой хлопец. Аднак я не згадзілася, бо трэба было ісці за каровамі. Выехаўшы з вёскі я ўбачыла лес. Паміж дрэвамі ўкрываўся хлопец, якога я знала з выгляду. У руцэ ён трымаў нож. Калі б я яго не ўбачыла, то можа б і паехала на пашу, але я яго заўважыла. Ён мяне дагнаў і ўскочыў на фуру. Я затрымалася. У тую ж хвіліну я ўбачыла каля сябе свайго хлопца, які клікаў мяне на спатканне, і адну сяброўку са школы. Гэты хлопец, што меў у руцэ кінжал, пакінуў мяне, а стаў чапляцца да маёй сяброўкі. Я кароў да дому не прыгнала. На гэтым прачнулася, вельмі знерваваная. Баялася. Што можа абазначаць гэты сон?

Чытачка з Гайнаўкі

Як ні круці, усё ж чакае вас нейкая хісткая, няпэўная справа (фурманка, да язды на якой вы самі дзельна прычыніліся). Чакаюць вас ні то нейкія сваркі і непрыемнасці ў гэтай справе, ні то нейкая небяспека. Вы ж раз бачылі нож, а іншы раз ён здаваўся вам кінжалам. Ды хлапец з кінжалам ускочыў на вашу фурманку. Дзякуючы вашаму хлопцу небяспека, пагражаючая вам, павінна мінаваць, чаго і жадае вам ад усёй душы

**Астрон**

## Консультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: Былы зяць займае дом цесця і нічога за кватэру не плаціць. Умовы арэнды паміж імі не было, бо цесць адносіўся да зяця як да члена сям'і. Былы зяць не хоча пакінуць кватэру, гаворачы, што і так яму нічога не зробяць, бо плаціць ён не абавязаны, а калі цесць хоча, каб ён выйшаў з памяшкання, то хай дасць яму іншую кватэру, бо і так яго на вуліцу не выкінуць. Ці можна патрабаваць ад яго арэнднай платы і ці можна патрабаваць прымусовага высялення?

АДКАЗ: Уласнік дома, калі дом не падлягае публічнай гаспадарцы, можа патрабаваць прымусовага высялення асобы, якая пражывала ў яго доме па яго дазволу без умовы арэнды — так, як і ў тым выпадку, калі б паміж імі ўмова арэнды была заключана. Рашэнне суда выконваюць кватэрунковыя ўлады, г.зн. жыллёвы аддзел, які існуе пры начальніку горада. Рашэнні выконваюцца ў меру таго, як гарадскія ўлады маюць у сваім распараджэнні кватэры, у якія можна перасяліць гэткіх кватарантаў. Можна таксама патрабаваць заплаты за карыстанне з памяшкання. Паколькі няма ўмовы, можна патрабаваць заплаты такой, якая ў данай мясцовасці агульна прынята. За час, пакуль такое патрабаванне не прад'яўлена, абавязак заплаты не існуе.

## Этнаграфічнае акенца



*Стары вадзяны млын на рэчцы Слойка каля вёскі Талькоўшчына.*
*Фота М. Гайдука.*






І ў такі вось час, калі ад знямогі мутнела ўвачччу і ўсё на свеце было непатрэбна і абыякава, пачуўся спалоханы голас Блішчынскага:

— Немцы!!!

Гэта было самае горшае — іхняя пагібель, здаецца, падступіла ўпрытык. Але ўжо столькі было перанесена імі за апошнія дні, столькі выпакутавана, што гэтая страшная навіна не спалохам, а толькі самотнай тугою азвалася ў іх душы. Усё ж Цімошкін неяк устаў з долу, і, перасільваючы ў сабе знямоглась, сеў на снезе. З-пад хутара, паўз дрэўцы, пэўна, па іхніх слядах, адзін за адным ішлі немцы.

Блішчынскі з нечаканым спрытам падхапіў аўтамат і падаўся за сцірту. У доле заварушыўся і прастагнаў Ваня. Ён прыўзняўся на руках, прыкусіў ад болю губу і ўтледзеўся ў звечарэлы прастор.

— Валодзя, — за сцірту! — пакутна моршчачыся, сказаў ён, і Цімошкін адчуў, што ім засталося адно — біцца.

І сілы яшчэ знайшлося. Цімошкін устаў, учапіўся адною рукой за Ваневу руку і сяк-так памог яму дацягнуцца да іх саламянага прытулку.

Але, кажуць, бяда не ходзіць адна. Не паспелі яны запаўзці ў застрэшак, як новая трывога — за маёра, — зварухнула нутро Цімошкіна. Прыкрыты да паловы саломай, Андрэеў ляжаў, як і раней, і ягоны твар, прысыпаны снегавою мукой, здаваўся нежывы. Хлопец кінуўся да яго, крануў за плячо, трасянуў — ніводным рухам, ніводным знакам маёр не азваўся. Тады ён, вырываючы гузікі, расшпіліў ягоны шынель, прыпаў вухам да шырокіх нерухомых грудзей, і хутка зразумеў, што ў іх ужо не засталося жыцця. Ён сказаў аб тым Шчарбаку, але той, спакучаны сваім болем, толькі курчыўся на саломе і маўчаў.

Немцы між тым таропка шыбавалі па ўзмежку — усяго іх было дванаццаць. Адзін адстаў нечага, прыгнуўся, пакорпаўся пад сваім абуткам, пасля бягом дагнаў пярэдніх. Далей і з боку ад іх, за хутарам, абыякавае да людскоe бяды, заходзіла чырвонае, патухлае сонца. Вецер патроху цішэў, і завея ў полі спакайнела. Ваня прыціснуўся да саломы ў доле, ён яшчэ болей збялеў і, пэўна, каб не стагнаць, моцна сціскаў сківаццы. У Блішчынскага нервова дрыжала пашчэнка, увесь ён неяк прыцціх і разгублена шнырыў вачамі па снегавым прасцягу.

Трэба было рыхтавацца да бойкі, і Шчарбак, павярнуўшы да хлопцаў твар, на якім ляжала выразная грымаса болю, раздражнена крыкнуў:

— Ну, што стоўпіліся? Цімошкін — пад каня!... Ты, пісар, — на той бок, за сцірту! Адбівацца будзем!

Блішчынскі, прыгнуўшыся, моўчкі шмыгнуў за сцірту. Цімошкін выйшаў з-за рога і пачаў мясціцца ў снезе да конскага трупа. Ваня ўсё ляжаў ніцма пад сціртай.

— Ат, чорт! Закурыць бы! — ціха прастагнаў ён. Заўжды ў хвіліну, калі насоўвалася небяспека, ён прагнуў курыць. Звычайна ў такі час Цімошкін згортваў цыгарку, прыкурваў і соваў сябру ў зубы, а ён, не адрываючыся ад прыцэлу, наводзіў гармату па пяхоце ці танках. Гэта памагала яму быць спакойным і роўна рабіць сваю справу. Цяпер жа курыва ў іх не было, і Ваня з болем і горыччу вылаяўся.

Яны пачалі чакаць. Каб ямчэй было ўцэліць, Цімошкін паклаў аўтамат на худы конскі загрывак, — страляць аднаю рукой было нязручна. Шанцаў выйсці жывым з гэтага ліха ў іх было мала, калі б хоць удалося падпусціць ворагаў бліжэй. Наўрад ці будуць немцы атакоўваць іх, але агню зададуць, гэта хлопцы ведалі добра. Яшчэ кепска, што так мала было патронаў — па адным толькі дыску на аўтамат. Аднак прыдумаць што-небудзь другое ўжо было позна. Немцы павярнулі ад дрэўцаў і, абхопліваючы сцірту падковай, пачалі разыходзіцца ў полі. Яны пакуль што не стралялі, але, відаць, адчувалі, што будзе бойка, і, насцярожана ступаючы ў снезе, падыходзілі ўсё бліжэй.

— Ваня, бяры тых, што злева, а я — што справа, — сказаў Цімошкін сябру.

Шчарбак кіўнуў галавой. Яму, пэўна, гаварыць было цяжка, і выглядаў ён вельмі зняможана. У Цімошкіна балюча заныла ўнутры, не так за гэту бяду, як за Ваню, чулася яму, што нямала пакут чакае хлопца з той яго ранай.

Тым часам паволі цямнела. Над хутарам расплылася ў небе лімонная жаўцізна з барвоваю паскай ля самай зямлі. Сінявая смуга залізвала, хавала

## Не падмажаш — рыпіць...

Для жонкі я — працячок, якіх свет не бачыў. Яна крычыць: — Стаўка — мізэрная, прэміі — ні капейкі. А галаву дык вунь, як трымае! Пустую задзіраць лёгка.

Енчу:

— Не п'ю, не куру...

— Таму, што эгаіст!

...Вяртаюся дамоў з цыгарэткай у зубах, пахістваючыся.

— Нарэшце, — кажа яна, — а то я ўжо думала, так і звякуеш...

Цярпенне — маці прымнажэння. На рабоце не курыў. Эканоміў. Праз месяц у маёй кішэні перашэптвалася 12 рублёў. І я абвясціў жонцы:

— Будзе прэмія і на маім стале. Месяцы праз тры. Вось толькі, каб падмазаць...

— Ну, давай, давай! — сказала жонка і палезла ў шафу па грошы. Раніцай ціхім, але праніклівым голасам я паведаміў, што тое-сёе ўжо ёсць. І тут я ўпершыню даведаўся, што рукі ў жонкі пяшчотныя, губы-цёплыя.

На зыходзе наступнага месяца я сказаў, што прэмія адным вокам выглядае ў мяне з кішэні. Трэба толькі яшчэ нейкую бутэльку расціснуць з начальствам.

Паверыла, я зноў паклаў у сваю скарбонку некалькі рублёў. Увечары я нечакана натыркнуўся лыжкай на добры кавалак свініны.

На чацвёрты месяц жонка, кідаючы чарговую „падмазку" на стол, папракнула:

— Нешта ад тваёй задумы ні навару, ні нагару.

— Хто не сее, той не жне, — загадкава сказаў я.

І падлічваў. Атрымлівалася сто рублёў. Кавалак ладны. Такую прэмію не атрымліваў у нас за квартал нават і сам шэф.

У дзень зарплаты я паклаў на стол сваю „прэмію".

Мая жонка захлынулася ад шчасця.

А як паглядзела на мяне! Мамачка ты мая, як паглядзела! Ды за адзін такі позірк я гатоў не толькі што... нават у сталоўку на абед не хадзіць... Вы толькі паслухайце, што яна сказала:

— О любы! Ты ў мяне сапраўдны мужчына!

А сваёй маці кінула:

— Што ні кажы, але не падмажаш — рыпіць.

**Панас Палітыка**



*Ідылія.*

### КОЛЬКІ СЯБРОЎ У НАЧАЛЬНІКА?

Адзін чалавек пытае ў начальніка:

— Колькі ў вас сапраўдных сяброў?

— О дарагі мой, — адказаў начальнік, цяпер іх не пералічыш... Дакладна ж колькасць маіх сяброў ты зможаш вызначыць, калі мяне знімуць з гэтай пасады.

### МІКОЛКА

— Ты еў, сынок?

— Так, мамачка, еў.

— А чым жа цябе татка карміў?

— Лыжкай і відэльцам.

### ПАСПЯШАЎСЯ

Адзін чалавек звярнуўся ў бюро надвор'я:

— Скажыце, калі ласка, якое надвор'е будзе заўтра?

— Заўтра і звяртайцеся, — адказалі яму.

## НІЎКА



*— А дзе той небарака, які іграў на флейце — пікало?*

* * *

*„А якое ваша званне?" —*
*Запыталіся ў мяне.*
*Ведаў я, што хваляванне*
*Не адразу праміне.*

*„Мой я званне немаўляці,*
*Пастушком увосень мок,*
*І мяне часамі маці*
*Ціха клікала „сынок".*

*Зроду я не быў задзіра,*
*А вясёлы, малады,*
*Лесарубам, брыгадзірам*
*Звайся многія гады.*

*Я маўклівы быў і дужы,*
*Але з пэўнае пары*
*Любая назвала мужам*
*(А цяпер заве „стары").*

*І было вялікім святам,*
*Як, ступіўшы першы крок,*
*І мяне выразна татам*
*Звалі дочка і сынок.*

*Два унукі ходзяць следам,*
*Або ездзяць на спіне,*
*І знарок старэнькім дзедам*
*Клічуць жэўжыкі мяне.*

*Я гляджу без хвалявання,*
*Як імкліва час бяжыць,*
*Бо хачу яшчэ да звання*
*Хоць бы прадзеда дажыць".*

**Сяргей Грахоўскі**

### ЗНАЙШОЎ ВЫХАД

Гапка: — І што гэта за прас: дзень працуе, а на другі — халодны, як лёд.

Даніла: — Сёння грэе?

Гапка: — Не!

Даніла: — Значыць, уключыш заўтра.

### ПРЫЗНАЎСЯ

Прадае на рынку Кастусь кролікаў. Бабуля ўзяла аднаго, памацала, яшчэ і панюхала:

— А ці свежы ён?

— Свежы, свежы, — кажа Кастусь, — яшчэ ўчора мышэй лавіў!



*Ломка старога.*



**...Ён многа б аддаў, каб яшчэ больш атрымаць.**

**...Будаўніка прыпёрлі да сцяны, каб тая не ўпала.**

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Габраўцы-маладжоны прыехалі ў Рым. Спыталі ў гасцініцы, колькі часу спатрэбіцца, каб агледзець увесь горад. Ім растлумачылі, што на гэта трэба мінімум чатыры дні, і вельмі здзівіліся, калі праз два дні габравец пачаў выпісвацца і папрасіў рахунак.

— Як жа вы паспелі так хутка азнаёміцца з горадам?

— Вельмі проста, — адказаў габравец. — Жонка мая агледала адну палавіну горада, а я — другую. А калі вернемся ў Габрава, раскажам адзін аднаму пра ўсё, што кожны бачыў.

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Аляксандра Грыгарука з Плютыч змяшчаем песню*

## Tyle słońca w całym mieście

**słowa: Janusz Kondratowicz**
**muzyka: Jarosław Kukulski**
**śpiewa: Anna Jantar**

Dzień — wspomnienie lata,
dzień — słoneczne ćmy,
nagle w tłumie w samym środku miasta
ty — po prostu ty.
Dzień — godzina zwierzeń,
dzień — przy twarzy twarz,
szuka pamięć poplątanych ścieżek,
lecz — czy znajdzie nas.

Tyle słońca w całym mieście,
nie widziałeś tego jeszcze,
popatrz,
popatrz!
Szerokimi ulicami
niosą szczęście zakochani,
popatrz,
popatrz!
Wiatr porywa ich spojrzenia,
biegnie światłem w smugę cienia,
popatrz,
popatrz!
Łączy serca, wiąże dłonie,
może nam zawróci w głowie
też!

Dzień — powrotna podróż,
dzień — podanie rąk,
ale niebo, całe jeszcze w ogniu,
chcę zatrzymać wzrok.

Tyle słońca w całym mieście...



*— Што ты кажаш? Дзеці ўсё большыя і мацнейшыя?! Якія дзеці?*

### СМЕЛЫ

— Калі я за цябе выходзіла замуж, то думала, што ты смелы чалавек.

— Тое самае мне гаварылі ў той дзень усе знаёмыя.

### ПАПРОКІ

На пероне вакзала стаяць муж і жонка. Муж, убачыўшы, як адыходзіць поезд, злосна гаворыць:

— Калі б ты не марудзіла, то не спазніліся б у дарогу.

— А калі б ты мяне не падганяў, то не давялося б так доўга чакаць наступнага.

### КАЛЯНДАР

Актывіст БГКТ прапануе Хвядзюлінай Красавіцы „Беларускі каляндар" на новы год.

— Дзякую, але наш стары яшчэ ў добрым стане.



### ПАСЛЯ ВЯСЕЛЛЯ

Бацькі ажанілі сына на непрыгожай дзяўчыне. Пасля вяселля маладая жонка пытае ў мужа:

— Скажы, каму з тваіх родзічаў трэба паказацца ў першую чаргу?

— Каму хочаш, — адказвае той. — Толькі мне на вочы не трапляйся.

## Кур'ёзы

### КОЛЬКІ КАШТУЕ „ПАСВЕДЧАННЕ" НАРКАМАНА

Наркаманія ў амерыканскіх войсках у ФРГ прымае велізарныя размеры. Унтэры, якія прыахвоціліся да гераіну і морфію яшчэ ў В'етнаме, перадаюць „баявы вопыт" рэкрутам, якія рэгулярна прыбываюць з ЗША. У раёнах размяшчэння амерыканскіх часцей дзейнічаюць падпольныя сіндыкаты гандляроў наркотыкамі. Камандаванне даўно ўжо страціла надзею пакончыць з гэтым злом і задавальняецца тым, што без лішняга шуму звальняе ў запас „устаноўленых" наркаманаў. У Вісбадэне абсталявана спецыяльная ваенна-медыцынская лабараторыя „магутнасцю" тры тысячы аналізаў у дзень. Пробы па спецыяльнаму загаду збіраюцца раз у тыдзень ва ўсіх амерыканскіх казармах у ФРГ і звозяцца ў Вісбадэн.

Попыт нараджае прапанову: у ваенна-медыцынскай службе Вісбадэна быў нядаўна раскрыты новы падпольны сіндыкат, які тайна гандлюе... аналізамі. Справа аказалася простай і прыбытковай: наркаманы, якія хочуць застацца ў арміі, купляюць „бездакорную пробу" і, наадварот, ваеннаслужачыя, што жадаюць датэрмінова вярнуцца ў Штаты, але яшчэ не прывыклі да наркотыкаў, набываюць „пробу" наркамана.

### ГАРЭЗЫ І КРЫЛОЎ

Маладыя гарэзы, гуляючы ў Летнім садзе, сустрэліся з байкапісцам Крыловым.

— Вось ідзе на нас хмара! — крыкнуў адзін з кампаніі.

— Так, — адказаў Крылоў, — таму вось і жабы расквакаліся.




*Знайшоўшы супольную мову, можна страціць цікавага субяседніка.*